# Грамадзкае Злачынства Групавога Я

Заўвага: *Быўшы старшыня БАЗА сп. Курыла, сп. Азарка дый іншыя колькі раз мяне пераконвалі, каб тэмы грамадзкага характару, якія я із імі дыскутаваў прыватна, я напісаў да газэты „Беларус“. Яны цьвердзілі, што газэта ёсьць „найдэмакратычная“ ў сьвеце, дый вельмі ахвотна зьмесьціць мой артыкул.*

*Газэтай кіруем мы, а не нейкі Стась ці Абрамчык.*

*Я із свайго боку, пераконваў іх, што тое, што я із імі дыскутаваў, ніколі не падабаіцца лідарам абедзьвух груповак. Яны-ж із свайго боку пераконвалі, што няпраўда, яны зробяць усё.*

*Два месяцы таму назад, я напісаў вось гэты артыкул дый пераслаў да рэдакцыі „Беларус“, „Беларускі Голас“. Некалькі копіяў гэтага артыкулу былі пераcланыя тым спадарам, якія мяне пераконвалі: „там можна пісаць, дыскутаваць усё“. Цяпер Спадары, Вы пераканаліся пра што я вам цьвердзіў некалькі раз.*

*І так, вось гэты артыкул.*

МАЛЕНЬКАЯ БЕЛАРУСЬ, альбо, як мы тут у Амэрыцы назвалі, Рэсорт Бэлэр Менск. Першы раз у вольным сьвеце на працягу шасьці год каля гэтай арганізацыі больш, як 250 беларусаў рабілі спробу жыць дэмакратычным спосабам.

*Ці патрэбна была здаровая беларуская культурна-грамадзкая арганізацыя із моцным фінансавым фундамэнтам, як наш Бэлэр Менск прадбачыўся?*

Так. Асабліва тут у Амэрыцы, толькі такая арганізацыя можа быць жыцьцяздольнай. Мы бачым, што здарылася із Саюзам Беларускай Моладзі, альбо падобнымі арганізацыямі, якія толькі жывуць на паперы.

Не адна із беларускіх арганізацыяў, па прыездзе да ЗША альбо Канаду колькасна павялічылася, ці сумела затрымаць моладзь каля сябе, зрабіць дзецкі лягер, рабіць радыёперадачу, мець дэмакратычную прэсу, мейсца дзе можна было рабіць выставы, свой музэй, чаму нават не калэдж, хоцьбы клюб ці штось падобнае, якія-б студыявалі фінансы, экономіку, палітыку тых краёў, дзе асяліліся. Нема аніякага кантакту із старой эміграцыяй, асабліва інтэлігенцыяй выйшаўшай із старой эміграцыі. А чым хваліцца пра новую эміграцыю? Большасьць беларусаў гэта палякі альбо расейцы. Запытайцеся ў Саўт Рывэрскага духоўнага апякуна Лапіцкага, колькі яго прыхажан прымаючы амэрыканскае грамадзянства падалі сваю нацыянальнасьць, як беларусы. Тое самае нагледаіцца ў іншых арганізацыях. Як бачым, ня было арганізацыі, якая-б цікавілася гэтымі справамі. После гадзін сплеткарства, пянства было мала часу на добрыя справы. Як бачыце із пералічаных фактаў, а іх болей, такая арганізацыя была патрэбнай.

Калі мы хочам выхаваць нашых дзетак у Беларускім Духу — патрэбна Здаровая Беларуская Атмасфэра. Для нашых дзетак патрэбна Маленькая Беларусь, наш рэсорт Бэлэр Менск, а не італьянскія гэнг плэйсы, Бярлога на Герман Стрыт, ці такія пару мейсц у падвалах, як у Брукліне, дзе моладзь сароміцца зайсьці із сваімі сябрамі.

Удумайцеся Др. Стась Станкевіч, што ваш высілак у Беларусе згуртаваць моладзь раўняецца пустому звуку. Беларускія арганізацыі, клюбы павінны быць лепшымі, чым тыя арганізацыі, якія беларуская моладзь наведваіць. Беларускія лідары і грамадзтва павінны быць добрым прыкладам. Гэта частка таго сакрэту чаму беларусы не маюць посьпеху у грамадзкім жыцьці.

Наш Бэлэр Менск я называю Божы Падарунак, як для маладзейшага гэтак і для старэйшага пакаленьня. Сваімі паводзінамі мы паказалі, што мы гэтага не заслугоўваем. Ня будзіць дзіўным, калі мы ніколі не пабачым Маці Беларусь, якую мы пакінулі некалькі год таму назад.

Мы працуем самі супроць самых!

*Здарылася ўся гэтая бяда, пра якую я хачу тут гутарыць, за адну гадзіну ці было гэта вядома ад самага пачатку паўстаньня гэтай арганізацыі?*

Было гэта бачна ад самага пачатку таму хто хацеў бачыць, а яно выглядала так: арганізацыю пачалі закладаць, як мы тут называем із нізоў. Вярхі намаўлялі супроць, а калі ўбачылі завіруху, пачалі ткаць свае пальцы. Некалькі із вярхоў далучыліся да арганізацыі спачатку, аднак бачылі, як нешта з боку Кангрэсоваго Камітэту альбо БАЗА, наканец захацелася ім бачыць наш Менск прыбудоўкай сваіх папяровых арганізацыяў. Прэзыдэнства карпарацыі было аддадзена няпісьменнаму чалавеку. Ты будзь прэзыдэнтам, а я буду выконваць ролю прэцыдэнта. Гэтая арганізацыя ня ёсьць вельмі важнай.

*Ці ўсе із дванаццацёх дырэктароў былі няпісьменнымі?*

Не. Разьбярэмся, як гэтая дырэкцыя функцыянавала. Із дванаццацёх дырэктароў 3—4 выбіраліся да выканаўчага становішча — экзэкутыў. Каля аднаго няпісьменнага прэзыдэнта карпарацыі астатняя экзэкутыва штосьці разумела, бо адзін ці два із іх гатовы ўсякі час быць прэзыдэнтам Беларусі. Уся справа была ў тым, што выканаўчы ворган быў падрыхтаваны дыктаваць, а не выконваць. Такім чынам, асабліва на пачатку, паўсталі супярэчнасьці.

*Чым вытлумагыць псыхіку беларускага эмігранта дыктаваць альбо быць пасыўным?*

Беларуская інтэлігенцыя ўзгадаваная пад Пілсудзкім, Сталінам, ды гітлероўскімі зондэрфюрэрамі, калі ня поўнасьцю дык у большым выпадку сьпеваюць голасам сваіх настаўнікаў.

Акупацыя нашага краю праз чужую дыктатуру пакінула сьлед рабства на цэлую беларскую нацыю. Дваццаць із гакам год у дэмакратычным сьвеце не пераканалі беларускай інтэлігенцыі дый не пераўзгадавалі беларускую масу жыць і тварыць у дэмакратычны спосаб. Вялікі сорам беларускім пісьменьнікам, журналістам, духавенству, што замест таго, каб стаць лідарамі дэмакратычнага парадку, яны сталі сябрамі таталітарна-папяровых клюбікаў.

*Некалькі фактаў.*

Ужо на першым годзе існаваньня рэзорту БАЗА і БАПЦ рабілі спробу пакончыць палітычную кар'еру Мерляка і яго прыхільнікаў, забыўшыся пра тое, што Мерляк із супалкай маюць найбольш шэ-

раў дый яныж экзэкутыва. На дапамогу Мерляку прыйшлі рыцары свастыкі, Саўт Рывэр.

Зразмела Кіпелю, Мерляку, „знамянітаму прэзыдэнту карпарацыі“ ня было часу займацца справамі карпарацыі. За ўсякую цану трэба было быць усюды на версе. Як рэзультат, карпарацыя не прадукавала і палавіны для касы, чаго яна была здольнай рабіць. Дзецкі лягер які толькі зарадзіўся дый яшчэ не апраўдваў называць сябе дзецкім лягерам перастаў існаваць (адказныя: Др. Войтанка, Др. Кіпель). Лапіцкі пачаў ігнараваць супольны дзецкі лягер, падтрымліваючы толькі парахвіяльна-партыйны. Трэба адцеміць, што із жыцьцём дзецкага лягеру амаль зьвязана жыцьцё нашай арганізацыі.

Йшчэ перад купляй рэзорту я, Сп. Пелеса, Інж. Ю. Станкевіч апрацавалі статут карпарацыі. Я асабіста прадбачыў і баяўся хваробы лягерных палітыканаў, аднак пры куплі рэзорту справа статуту была забытай.

Пры дыскусіях із дырэкцыяй дый прыватна я настайваў, што карпарацыя павінна функцыянаваць па пляну. Экзэкутыва, асабліва Сп. Мерляк цьвердзіў, што пляны робяцца толькі ў Савецкім Саюзе. Кіпель звычайна ўхіляўся дыскусый.

1964 гадавы сход карпарацыі ў Шакаў. Хаос. Вялікая колькасьць пяных. Падчас сходу пяны рыцар свастыкі крычыць, што ўсё было добра. Чаму ён крычыць? Др. Янка Станкевіч цьвердзіць, што ўсё было дрэнна. Ён напрыклад настайваіць, што прэзыдэнт карпарацыі не маіць права прынімаць свае гадзіны працы. Ён далей ставіць пытаньне перад сходам і дырэкцыяй“: 615 працуючых гадзін (у сапраўднасьці 715) ня было на працягу сэзону (сэзон — тры месяцы), як тады прэзыдэнт карпарацыі мог мець столькі працуючых гадзін? Саюзьнікі вядуць вайну зусім у другім кірунку, усё было добра. Ёсьць шансы нацерці пыску сваім ворагам. Трэба сьцьвердзіць, што экзэкутыва (яныж прэзыдыюм сходу) карпарацыйнымі справамі дый фактамі беларускага жыцьця зьвязанымі із гэтай арганізацыяй не хацелі дыскутаваць. Кіраўнікі сходу Кіпель і Мерляк былі задаволены такім канцэртам.

1967 год спэцыялістыя із Герман Стрыт дый адшчапіўшаяся частка БАЗА зрабілі гармонію паміж экзэкутывай дый дырэкцыяй. Герман Стрыт гэта тыя людзі, якія на працягу больш, як дзесяць год, пад вывескай Саюз Беларускай Моладзі рабілі грошы не давалі справаздачы. Прычына, мы маем сакрэтныя расхооды. Публічна нідзе небачна справаздач Дапамаговага Камітэту Лапіцкага. Дзіўна, што

не адзін беларускі дзеяч публічна не адважыўся зрабіць аніякага пратэсту ці звароту. Як бачым цяжка рабу набрацца адвагі.

У 1968 годзе барацьба за Менск паслабілася. Да дырэкцыі ўвайшлі із чатырох бакоў: душой і целам адданыя гэтай арганізацыі, БАЗА, Кангрэсовы Камітэт, Саюз Беларусаў. Я асабіста меў надзею, што розум у людзей, наканец, пачаў працаваць. Аднак не так здарылася, фашысты із Герман Стрыт пачалі працаваць у адваротным кірунку. На першы дзен адкрыцьця рэзорту вэтэраны атрымалі ананімныя лісты (глядзі артыкул С. Ж. у Беларускім Голасе). Першы месяц сакратар не пасылаіць ані якіх паведамленьняў пра дзейнасьць рэзорту, нерэгулярны прыезд дырэктароў на паседжаньні дырэкцыі, дый іншыя непрыемнасьці. Большасьці стала ясна небясьпека для Менска. На верасень 1968 года быў скліканы надзвычайны сход шэраўцаў (дольшчыкаў). Сакратар Сенька, як бачна наўмысна не паінфармаваў прыхільнікаў Кангрэсовага Камітэту, дый не зьявіўся сам. Верасень 1968 года мяне асабіста пераканаў, што гарбатага справіць толькі магіла.

Люты 1969 года. У грамадзкім цэнтру на Атлантык Авэню гадавы сход укладчыкаў. На правым баку у двух радох сядзіць элемэнт, які спрычыніўся да банкруцтва нашай арганізацыі. Чамусьці селі адзін каля другога, вельмі мала прынімаюць удзел у дыскусьях. Не забывайцеся у іх кішэні большасьць нашых шэраў. Саўт Рывэрскія шэры прывезьлі толькі два тыпы, значыць дамовіліся. Пад час выбараў змоўшчыкі вынімаюць лісту і бязумоўна маючы большасьць шэраў выбіраюць сябе.Пад канец сходу мне стала ясна, штосьці задумалі. Людзі якія спрычыніліся да духоўных і матаряльных стратаў ня могуць далей весьці гэтую арганізацыю. Я ўзяў слова і паабяцаў перад сходам ад сябе пацікавіцца ўсёй гэтай інтрыгай. Маё выступленьне, спрактыкаваны сакратар Сенька, нават не запісаў да пратаколу.

Дзесь у лютым 1969 г., па маей ініцыятыве, у Ню Йорку сабралась некалькі шэраўцаў, якія цікавіліся далейшым лёсам Менску. Праўнік Гарошка радзіць судовую справу і тоолькі. Я асабіста паставіўся супроць. Разьехаліся без аніякага рашэньня дый сумнымі вывадамі.

У хуткім часе стала вядома, што да рэзорту возяць манаха, дый сабіраюцца гэтую арганізацыю зрабіць прыбудоўкай партыйнае царквы ў Саўт Рывэры. Другая навіна, рэзорт прадаецца. Заўвагі ад людзей, „стараюцца замесьці свае сьляды“. Я сабраўшыся із дум-

камі патэлефанаваў да інжынера Гарошкі дый праўніка Гарошкі. Змоўшчыкі задумалі антыграмадзкую справу. Трэба брацца дый пачынаць із галавы г. зн. дакумэнты карпарацыі. Распачалась зборка подпісаў паміж укладчыкаў. Сабраўшы подпісы паўстала пытаньне, як пачынаць самы ці праўнік? Інж. Гарошка пераконваіць, што толькі праўнік. Хоць неахвотна, але я пагадзіўся, што інж. Гарошка праз свайго сына праўніка дый той праўнай фірмы дзе ён працуіць павядуць усю справу.

Чаму я пагадзіўся, каб праўнік павёў справу? У 1968 годзе я быў дырэктар карпарацыі, інж. В. Станкевіч быў заступнікам прэзыдэнта карпарацыі. Я падтрымаў ідэю заступніка прэзыдэнта карпарацыі, прагледзіць усе карпарацыйныя дакумэнты, каб распазнаць усе праблемы нашага прадпрыемства. Я асабіста ўзяў комнату на сэзон із таго разліку, што для карпарацыі будзіць даход, а ў канцы тыдня можна будзіць працаваць над дакумэнтамі карпарацыі. На паседжаньні дырэкцыі прэзыдэнт карпарацыі сказаў, што ён бачыць варожы замер супроць Мерляка. Я асабіста адказаў, што я сябе ўважаю больш прыяцелям чым ворагам Мерляка. Пад час сэзону я быў заняты праграмнай часткай для рэзорту. Я ўважаў, што заступнік прэзыдэнта карпарацыі маючы падрыхтоўку рахункавода дый вышэйшую пазыцыю чым я будзіць больш адпаведнай асобай для такой працы, пагэтаму я перастаў рабіць вымогі доступа да дакумэнтаў карпарацыі. Гэты-ж раз я не належыў да дырэкцыі, то якія-ж будуць шансы паўтараць тое самае.

Праўнік выслаў даволі лагодны ліст на імя карпарацыі, ад 40 шэраўцаў, каб карпарацыя пазволіла праверыць дакумэнты. У адказ за подпісьсю заступніка прэзыдэнта карпарацыі Мерляка ад імя дырэкцыі пастаўлены гадзіны праверкі і тэхнічныя вымогі із якімі-б былі зьвязаны кошты ад 4 да 5 тысяч даляраў. Як бачна быў разлік на тое, што падпісаўшыяся адмовяцца ад усякай праверкі дакумэнтаў.

На маё запытаньне інж. Гарошкі, як праўнік рухаіць справу у кірунку Бэлэр Менск, адказ быў просты — да суда.

Калі ўся справа была ў праўніка, я студыяваў Карпарацыйны Закон Ню Йорскага штату. Я зразумеў, што права ёсьць на нашым баку. Я рашыў патэлэфанаваць да фірмы, дзе працуіць праўнік Гарошка. Я стараўся пераканаць фірму, што дырэкцыя не разумеіць. Трэба зрабіць выпіску із карпарацыйных законаў дый вытлумачыць, што іх трэбаваньне ёсьць незаконным дый шкодным для самых дырэктараў. Здавалася, што пагадзіліся із праўнікам, аднак

справа стаяла на мейсцы. Посьле некалькіх паўторных гутарак із праўнікам дый інж. Гарошкам, я не пагадзіўся падаваць справу адразу у суд. Усю справу я ўзяў на сябе. Пачалося із заказных пісем да прэзыдэнта карпарацыі, дый копіі лістоў да беларусаў якія хоць, як былі зьвязаны із нашым прадпрыемствам. Прозвішчы і адрасы шэраўцаў было немагчыма атрымаць ад дырэкцыі. Як трэба было спадзявацца спэцыялістыя із Гермн Стрыт ігнаравалі, альбо адказвалі посьле другога заказнога ліста, падставіўшы дату назад. Із праўнікам яны-б так не цацкаліся. Цяпер інж. Гарошка я бачу, што вы разумелі лепш гэтую праблему. Калі-б мы пайшлі вашай дарогай то уся справа была-б палавіна дарогі. Я асабіста не панёс коштаў. Не каштавала-б карпарацыі. Плацілі-б за ўсё віноўнікі. Так запісана ў Ню Йорскім карпарацыйным законе, дый сэртафікэйт аф корпарэйшан. Суд кіруецца гэтым правам.

*Сытуацыя на сёньня*

Маленькая Беларусь, рэзорт Бэлэр Менск можна сказаць ёсьць збанкрутаваны. Апошняя навіна гэта цяжкі камень па галаве. Усе іншурансы на карпарацыю ёсьць адабраныя.Мы не маем страховак. На апошнім гадавым сходзе прэзыдэнт капарацыі Г. Арцюшэнка вытлумачыў так: „мы плацім вельмі дорага за іншурансы, а пагэтаму карпарацыя стараецца ўзяць штосьці лепшае“, зусім замаўчаў, што усе страхоўкі ёсьць адмоўлены. Многа прысутных на сходзе разумелі ў чым справа. Чамусьці ніхто із прысутных на сходзе не адважыўся запытаць, што сапраўды здарылася із страхоўкамі. Нявольнік не адважыцца адчыніць рот.

Чаму іншурансы ёсьць адмоўлены ?

1. Неаплата, альбо несваечасовая аплата.

2. Усякае прадпрыемства , якое ў бядзе ў такой, як мы цяпер, страхавыя кампаніі робяць так, як зрабілі із намі. Із нашымі страхоўкамі можыць быць тое, што із дзялянкамі. Задоўжанасьць расьцець. Нема грошы. Нашыя ўклады ідуць на ніз. Ніхто ня хочыць купляць шэраў. Апошняя спроба прадаць і ліквідаваць нашую арганізацыю не ўдалася. Дый гэта ня ёсьць так лёгка. Хто цікавіцца пачытайце Карпарацыйны Закон Ню Йорскага штату, аддзел дыссалушан аф карпарэйшан. Хвост і галава прышчэмлены. Дырэкцыя ў паніцы. Большасьць не хацелі быць выбранымі.

Як цяпер Мішка, Грышка ды Мерляк прыкруціліся? Пан Лапіцкі вы здаволены? БАЗА йшчэ адна беларуская справа зробленая ў імя БНР.

Што значыць сёньня быць выбраным дырэктарам рэзорту? Гэта значыць перабраць маральны хаос, фінансавыя страты, пакрыць альбо судзіць таго, хто да гэтага спрычыніўся.

А што калі здарыцца які выпадак, як гэта пару год таму назад здарылася на фарме РОВА, дзе судзілі карпарацыю на чэцьверць міліёна даляраў? Закон гаворыць ясна — дырэкцыя ёсьць адказной. Хто быў на апошнім гадавым сходзе 1 лютага 1970 г. магчыма разумеіць цяпер чаму старая дырэкцыя ўцякала пакінуўшы штаны. Нават тыя зрызагнавалі, якія былі выбранымі на два гады.

Мне вельмі шкада тых хто падставіў сябе да дырэкцыі апошні раз. Як бачна гэтыя людзі яшчэ не разумеюць прычын такога непарадку на Маленькай Беларусі, дый хто за гэта вінаваты. Трэба было лідарам БАЗА дый Кангрэсовага Камітэту замесьці брудныя сьляды сваей працы. Замест зрабіць так, гэты раз яны сілілісь зваліць усю бяду адзін другому, дый гэтым самым не бачыць і не чуць апошнія болі ўміраючага. Безадказнасьць.

*Што рабіць!?*

1. Папрасіць абрамчыкавых дый астроўскага міністраў, „я не думаю, што хтосьці сярод беларусаў мудрэй за іх ёсьць“, дый нехай яны пакажуць, як гэтую фарму прывесьці да толку. За гэты кусочак Маленькай Беларусі ня трэба было праліваць крыві. Не патрэбна войска ахоўваць межы. Маіце ўсё.

2. Беларускія Цэрквы! Не развівайце ненавісьць сярод сваіх людзей.

Прыхажане ад Вас залежыць усё.

Сёняшняя Ваша праца, МАЕ ДАРАГЬЯ АЙЦЫ, толькі шкодзіць беларусам.

3. Самае асноўнае — гэта знайсьці віноўнікаў. А яны пачынаюцца так: Усе мы. Як доўга мы будзем занімацца самазабойствам?

4. Другі віноўнік гэта дырэктары і рэвізыйныя камісіі за ўсе гады. Склікаць усю дырэкцыю дый рэвізыйныя камісіі за ўсе гады, дый у ганаровы спосаб нехай яны зьврнуць рэзорту матар’яль-

ныя і маральныя страты. Амэрыканскі суд гэта зробіць, але нашая арганізацыя пацерпіць маральна. Першы выбар ёсьць лепшы.

5. Зрабіць Менск культурна-фінансавай грамадзкай арганізацыяй.
6. Зрабіць падробны плян вядзеньня гаспадаркі.
7. Зрабіць плян культурна грамадзкай працы на рэзорце.
8. Пераапрацаваць байлаў нашай арганізацыі.
9. Каб пазбыцца высокіх падаткаў, трэба із партыйных цэркваў зрабіць адну Беларускую Царкву. Карпарацыю зрабіць собскасьцю царквы.

Памятайце! Маленькая Беларусь павінна была быць прыкладам для ўсіх беларусаў, асабліва для тых хто далучыўся да палякаў дый расейцаў.

Маленькая Беларусь павінна была-б напамінаць пра Вялікую Маці Беларусь, што мы перад ёй ёсьць заабавязаны, сваей працай мы павінны былі паказаць, што мы яе шануем.

Штож мы даказалі? Мы кінулі сябе тварам у гразь. Для беларусаў, якія належаць да палякаў дый расейцаў мы толькі паказалі, што ад нашых прэзыдэнтаў трэба трымацца далей. Многія із Беларусаў сказалі самі сабе, што гэта апошні раз мы даём на беларускую справу.

Беларусы, якія прэтэндуюць на лідараў паказалі, што яны гэтага не заслугоўваюць.

Апомніцеся! Йшчэ ня ёсьць позна, залежыць ад нас.

Дайце адкінем сваё я, гэтая літара ёсьць апошняя літара ў слове сьвіньня.

Пішыце чым вы можыце дапамагчы!

Беларускія часопісы і газэты перадрукуйце мною напісанае без усякіх зьмен і толькі. Дайце мейсца для дыскусый.

— о —

**
*

FROM THE EDITOR:

Many Bylorussians who grew up or where borne outside Byelorussia do not read or write in their mother language, although some of them do speak Byelorussian. Assimilation took and still is taking place fast, because of lack of existence of Byelorussian organizations or schools which would inspire and guide young brains and hearts for good purpose, which would benefit equally well the new and old countries. Few existing small Byelorussian parochial schools are run poorely or even determentally for our cause.

There are many reasons why Byelorussians, even though they grew up or were born outside Byelorussia, have to stick together and work together. Only this way we serve equally our new and old countries and benefit individually and familywise. I would not even try to enumerate all reasons and facts. For answers look at what where and are doing thouse groups that are successful. Even some animals are successful because they stick together, for example wolves.

There are many Byelorussians in the western world with college education: engeneers, military officers, teachers, businesmen, lawyers etc. Many of you are wondering how come you are told that you are a Pole yet you do not speak Polish, or you are told that you are a Russian yet you do not speak or understand Russian. Somebody must have done a dirty trick to us. Those brainwashers must be mad people. There is another group of educated and plain Byelorussians who know who they are, but do not want to be a part of existing Byelorassian organized groups (99,9% of them are young and educated), there must be a good reason for this.

It is very disgraceful to be a fertilizing material for the weeds of Russian or Polish politisians.

The purpouse of this journal is to tell the truth about many of our common goals and obligations as well as to give you a chance to speak about these ideas on the pages of this journal.

The people about whom I am trying to talk here are pearls lost in the ocean. If anyone of you happens to read this journal and knows or has friends that I am talking about, I am asking you for a little favour, please give them this journal to read, ask them whether they would like to recieve this journal. Please send me their address. Thank You!

*Dr Peter Markouski*

// //

Першы номер часапісу „Веча“ выйшаў тыражом 500 штук, другі номер 1000 штук.

Із новай беларускай эміграцыі могуць чытаць, дый цікавяцца друкаваным словам 4-5 тысячы чалавек (прыблізна). Добрых дзесяць тысяч, альбо больш, знойдзіцца сярод старой эміграцыі.

У чужым моры, Беларусы ёсьць згубленыя зярняткі, дапамажыце іх знайсьці. Тыя што атрымалі гэты часапіс ёсьць недалёка ад гэтых зярнятак. Калі ласка перашліце адрасы тых, хто цікавіцца чытаць гэты часапіс!

*Рэдакцыя*

*Увага!* *Увага!*

Рэдакцыя „Веча“ купіць усе намяры газэты „Бацькаўшчына“, таксама газэты, якія выходзілі на Беларусі падчас нямецкае акупацыі нашага краю.

Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

**Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204**